ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 18 (2576)

7 мая 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

## РАСТАПТАНЫЯ ПЯЛЁСТКІ

### *(ПАМІНАЛЬНАЕ СЛОВА)*

*Натхнёна лірыку пісалі Маракоў,*
*Лявонны і Сяднёў, і юны Розна,*
*Ды зрэнкамі бязлітасных ваўкоў*
*На іх глядзелі ўчэпіста і грозна.*

Прачнешся веснавым ранкам — і раптам: дзіва-дзіўнае — у хаце светла-светла, нібыта выпаў запозненны снег.

Не, не! Гэта зацвілі сады: узнялі празрыста-белыя ветразі вішні, у ружаваты водарны цвет увабраліся яблыні, загарэліся свечкі каштанаў, у надрэчных гаях з гаркавата-салодкім хмелем у бель увабраліся чаромхі, белымі зорачкамі з залацістымі вочкамі ўспыхнулі кусты язміну. Як адзінокія нявесты, у белым вэлюме стаяць у полі дзічкі.

Глядзіш на гэтую прыгажосць, і знікаюць горкія думы, клопаты і згрызоты. Хочацца жыць, дыхаць водарам і любавацца светлай кіпенню вясны. А раптам наляціць люты сівер, атрасе квецень, як снегам, укрые пялёсткамі зямлю, і адразу пусцее душа, шчыміць сэрца, калі гэтую цнатлівую прыгажосць прытапталі падкаванымі абцасы, умялі ў гразь капыты жывёл і колы грузавікоў.

Калі бушавала квецень, у далёкім 1926 годзе ў кнігарні майго палескага Глуска мне трапіла на вочы тоненькая блакітная кніжачка з пяшчотнаю назваю "Пялёсткі". Уверсе — імя аўтара: Валеры Маракоў. Такое імя і прозвішча я чуў упершыню. Падумалася: якія прыгожыя псеўданім! З маленькага партрэціка пазіраў яснавокі, светлавалосы, зусім юны прыгажун. Адгарнуў першую старонку і не мог адарвацца да апошняй. Купіць не было за што, але я сябраваў з сынам загадчыка кнігарні, і ён мне часта даваў на адну ноч тоненькія зборнічкі маладнякоўцаў. З "Пялёсткамі" разлучацца не хацелася, выпрасіў у мамы 25 капеек і доўга насіўся з кніжачкай Маракова: маю неспакушаную душу зачароўвалі і хвалявалі меладычныя радкі радасці жыцця і шчымлівай тугі першага нясмелага кахання. Чытаў і дзівіўся, як ён разгадаў і выказаў мае патаемныя думы і пачуцці:

**І ўжо тады, пад белаю калінай,**
**Нам будзе месяц сыпаць каласы.**
**Ітак, бывай, каханая дзяўчына,**
**Прыйду я хутка да цябе ў даліны**
**Упіцца свежасцю крамянае красы.**

Радкі з "Пялёсткаў" станавіліся нашымі нясмелымі прызнаннямі ў запісачках, перададзеных у падручніках упадабаным аднакласніцам. І ў той жа "Фізіцы" Цынгера часам прыходзілі адказы з тых жа "Пялёсткаў":



**Будзе песні нам пець зачараваны гай,**
**Будзе слухаць іх месяц і радасны край,**
**А мы будзем кахацца у полі.**

Гэта была рамантыка, разбуджаная і акрыленая светлай паэзіяй амаль нашага равесніка Валерыя Маракова. "Пялёсткі" пераходзілі з рук у рукі, вершы перапісваліся ў патаемныя дзявочыя дзённікі.

Улюбёны ў беларускую паэзію, зачараваны лірыкай Дубоўкі, Труса, Пушчы і Маракова, я вечарамі хадзіў у мястэчковую бібліятэку, рэгулярна чытаў "Маладняк", "Узвышша", "Полымя", літаратурныя дадаткі да "Беларускай вёскі", "Савецкай Беларусі" і штомесячныя літаратурныя старонкі "Звязды".

У адным з нумароў "Маладняка" прачытаў літаратурны партрэт Валерыя Маракова, напісаны яго аднакурснікам па Белпедтэхнікуме. З яго даведаўся, што любімы мой паэт статны, светлавалосы прыгажун, сын муляра з прыгараднай вёскі Козырава. Аўтар партрэта пісаў, што Маракоў ласкавы, шчыры таварыш усяе тэхнікумаўскае моладзі. Ён часам на лекцыях замест канспектаў цішком піша вершы, дае іх сябрам і сяброўкам, часам нават губляе.

На пачатку 1928 года мая стрыечная сястра Маруся павезла ў Мінск двум братам падмацунак з каляднай свежыны. Старэйшы

(Заканчэнне на 6-й стар.).

**У**ДОЎГІМ шэрагу ахвяр яжоўскіх засценкаў імя ваеннага пракурора Чарнаморскага флоту ўраджэнца Гродзенскай губерні Паўла Вайтэкі займае асобае месца. І зусім не таму, што яго справа звязана з нейкай вельмі займальнай ці галавапомнай фабулай. Прычына значна глыбейшая: ваенны пракурор Вайтэка аказаўся адным з нямногіх юрыстаў, хто знайшоў у сабе мужнасць адкрыта выступіць супраць рэпрэсій. І гэта на самай вяршыні, калі падобнае выступленне можна было заведама аднесці да катэгорыі самагубных.

П. ВАЙТЭКА СМЕЛА ВЫСТУПІЎ СУПРАЦЬ РЭПРЭСІЙ

## МЯЦЕЖНЫ ПРАКУРОР

Усё пачалося са службовай запіскі, якую пракурор Чарнаморскага флоту брыгваенюрыст Вайтэка накіраваў Галоўнаму пракурору РККА:

"...27 студзеня 1938 года я сумесна з упаўнаважаным асобага аддзела ЧФ тав. Івановым сустрэўся з падследчым па яго просьбе. Ён заявіў: "Мае паказанні, што маюцца ў справе, лжывыя, не адпавядаюць сапраўдным маім тлумачэнням. Следчы Іваноў сам надрукаваў пратакол і сумесна з упаўнаважаным асобага аддзела ЧФ Раманавым прымусіў мяне падпісаць".

Па гэтай службовай запісцы меры сапраўды былі прыняты. Аднак зусім не тыя, на якія разлічваў Павел Вайтэка. У лепшых традыцыях бюракратычнага цэнтралізму праверка праводзілася тымі ж службовымі асобамі, супраць якіх выступіў ваенны пракурор. За справу ўзяліся начальнік УДБ Крымскай АССР Паўлаў і асобы аддзел Чарнаморскага флоту.

Неўзабаве за подпісам намесніка начальніка асобага аддзела ЧФ Ісакава ў вышэйстаячую інстанцыю пайшоў дакумент, які ў многім вызначыў лёс пракурора Паўла Вайтэкі:

"Па сутнасці абвінавачванняў, што прад'яўляюцца пракурорам Вайтэкам, аб нібыта сістэматычных парушэннях норм пры вядзенні следства лічу неабходным давесці да вашага ведама наступнае:

У мінулым пад націскам Вайтэкі сярод работнікаў асобага аддзела ЧФ культываваліся бесхрыбетна-ліберальныя адносіны да арыштаваных, катэгарычна было забаронена дапытваць пасля 12 гадзін ночы. Замест выпрацоўкі ў следчых упартасці, напорыстасці пры допытах насаджаліся ялейна-дабрадушныя, бяззубыя адносіны да арыштаванага. Як вынік працягласць допытаў вагалася ў максімальных межах тры-чатыры гадзіны, следчы не так упарта дабіваўся прызнання, таму што думаў над тым, як бы чым-небудзь не пакрыўдзіць арыштаванага..."

Акрамя ўжо адзначанай практыкі Вайтэкі, якая выяўляецца ў ліберальных адносінах да арыштаваных, мы маем даныя, якія даюць падставу лічыць, што такі стыль работы не выпадковы і што Вайтэка не заслугоўвае палітычнага даверу..."

Падобная фармулёўка ў той час, калі партыя вуснамі свайго Генеральнага сакратара абвясціла "абвастрэнне класавай барацьбы", магла азначаць толькі адно: супраць ваеннага пракурора пачынаецца барацьба на знішчэнне.

У той час, калі ў Севастопалі разгортваліся гэтыя падзеі, у Маскве

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Гэты дом хоць і лічыцца 13-м на вуліцы Парыжскай камуны ў Ветцы, аднак мала хто не спыніцца ды не паглядзіць на яго. Такую прыгажосць навёў на сцены і вокны яго гаспадар Леанід Галафаеў, што і самому не грэх паказацца. Выйдзе вось так на ганачак: глядзіце, маўляў, я і ёсць той самы майстар.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

*З ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ*

## АКУПАЦЫЯ

### 1. ВАЙНА ЗА РЭСУРСЫ

Напярэдадні другой сусветнай вайны Гітлер пісаў: "Трэба любымі сродкамі дабіцца таго, каб свет быў заваяваны немцамі. Калі мы хочам стварыць нашу вялікую германскую імперыю, мы павінны перш за ўсё выцесніць і знішчыць славянскія народы — рускіх, палякаў, чэхаў, славакаў, балгар, украінцаў, беларусаў. Няма ніякай прычыны не рабіць гэта". Гітлер цынічна заяўляў: "Неабходна напасці на Расію, захапіць яе рэсурсы, не лічачыся з магчымасцю смерці мільёнаў людзей у гэтай краіне. Нам трэба ўзяць у Расіі ўсё, што трэба. Няхай гінуць мільёны".

Услед за фюрэрам адкрыта гаварыў Гебельс: "Гэта вайна за пшаніцу і хлеб: за багата накрыты стол к сняданню, абеду і вячэры... вайна за сыравіну, за каўчук, за жалеза і руды". Пры абмеркаванні Гітлерам з ніжэйшымі фюрэрамі 16 ліпеня 1941 года мэт вайны супраць Савецкага Саюза рэйхслейтэр Марцін Борман зрабіў наступныя паметы па сакрэтнаму тлумачэнню ўсходняй палітыкі: "Самае галоўнае, мы павінны разрэзаць вялізны пірог так, каб мы маглі: 1. Панаваць. 2. Кіраваць. 3. Эксплуатаваць".

(Працяг на 4-й стар.).

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

# ПАД ЧОРНЫМІ КРЫЛАМІ БЯДЫ

*Апошні тыдзень красавіка... Вось ужо дванаццаты раз Беларусь адзначыла яго ў тужлівым роздуме і жалобе. Дванаццаць гадоў мінула з той страшнай ночы 26 красавіка 1986 года, калі адбылася катастрофа, аблудна названая савецкай прапагандай "аварыяй" на Чарнобыльскай АЭС. З той пары зямлю радасці пад белымі крыламі буслоў агарнуў чорны цень бяды. Хварэе наша зямля, хварэюць і паміраюць людзі. І што страшней за ўсё — паміраюць ні ў чым невінаватыя дзеці — будучыня краіны, надзея нацыі. А якая ж нацыя без будучыні...*

## ПРАВАСЛАЎНАЯ КАПЛІЦА «СПАТОЛЕННЕ ЗАГІНУЎШЫХ»



**У сталічным парку Дружбы народаў, што на скрыжаванні вуліц Арлоўскай і Карастаянавай, узносіцца ў неба праваслаўная капліца ў гонар іконы Божай Маці "Спатоленне загінуўшых". Гэта сімвал памяці народа аб ахвярах чарнобыльскай катастрофы. Спраектаваў будынак цудоўнай храмавай архітэктуры архітэктар Мікалай Дзятко.**

**26 красавіка, у дзень жалобнай гадавіны, капліцу асвяціў і адправіў літургію Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.**

**Потым тут адбыўся грамадзянскі мітынг. У ім прынялі ўдзел тыя, хто ў красавіку 1986 года першымі прынялі на сябе ўдар "мірнага" атама, тыя, хто ратаваў людзей, ахоўваў радыяцыйна небяспечную зону. Людзі давалі клятву помніць аб тым, што нас спасцігла, аб'яднацца ў горы, каб выстаяць.**

**НА ЗДЫМКАХ: праваслаўная капліца ў гонар іконы Божай Маці "Спатоленне загінуўшых"; літургію адпраўляе Мітрапаліт Філарэт.**



## «ШЧЫТ ЧАРНОБЫЛЮ»





**Праваслаўная капліца ў гонар іконы Божай Маці "Спатоленне загінуўшых" адчыніла свае дзверы для прыхаджан у дзень 12-й гадавіны чарнобыльскай трагедыі. А напярэдадні ініцыятары ўзвядзення храма — асацыяцыя работнікаў праваахоўных органаў "Шчыт Чарнобылю" і беларуская асацыяцыя пажарных — тых, хто непасрэдна прымаў удзел у ліквідацыі аварыі на атамным рэактары, — запрасілі журналістаў на прэс-канферэнцыю і адкрыццё выставы "Чарнобыль у маім жыцці" мастака і пісьменніка палкоўніка ў запасе Сяргея Давідовіча. Чарнобыльская тэматыка ў творчасці мастака невыпадковая. Аўтар сам быў у ліку ліквідатараў і атрымаў немалую дозу апраменьвання.**

**— Усе мае творы, — гаворыць мастак, — выпакутаваны не толькі душэўным, але і цялесным болем. Таму з такім цяжкім пачуццём і ўспрымаюцца карціны "Я хачу жыць, мама", "Выратуй, Божа, чарнобыльскіх дзетак", "Да каго прытуліцца, мама" і іншыя.**

**Многія свае работы С. Давідовіч прадаў за мяжу, а на выручаныя грошы асацыяцыя, членам якой ён з'яўляецца, арганізавала паездкі хворых дзяцей з чарнобыльскай зоны на аздараўленне ў Аўстрыю.**

**"Наш маральны абавязак — дапамагчы пакутуючым і ўвекавечыць памяць загінуўшых". Так можна сфармуляваць задачы і мэты, што ставіць перад сабой асацыяцыя ветэранаў Чарнобыля. Бо за гэтыя гады ўжо пакінулі жыццё 192 супрацоўнікі МУС, што прымалі ўдзел у ліквідацыі выніказу аварыі, больш за 300 чалавек сталі інвалідамі і атрымалі цяжкія захворванні. На сённяшні дзень на прафілактычным уліку — 76 працэнтаў усіх членаў таварыства. З 1991 года, калі была створана асацыяцыя, аказана матэрыяльная дапамога ветэранам Чарнобыля на 1,5 мільярда рублёў, закуплена медыкаментаў на суму каля 2 мільярдаў рублёў. Асацыяцыяй сабрана 3,4 мільярда рублёў на будаўніцтва капліцы — помніка ахвярам чарнобыльскай катастрофы.**

**Будаўніцтва храма завершана, і, як сказаў айцец Ігар, які будзе штодзённа служыць у ёй малебны, храм пасапраўднаму ўдаўся, таму што ўсе, хто прымаў удзел у яго ўзвядзенні, уклалі ў яго і часцінку сваёй пакутнай душы.**

**Сяргей САБАДАШ.**

**НА ЗДЫМКАХ: на адкрыцці выставы "Чарнобыль у маім жыцці" Сяргея ДАВІДОВІЧА (першы злева); кветкі памяці Васілю ІГНАЦЕНКУ, беларускаму пажарніку, які ў ліку першых тушыў пажар на ЧАЭС і атрымаў смяротную дозу радыяцыі.**

## «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ»




**З дазволу ўлад 25 красавіка ў Мінску адбыліся масавае шэсце і мітынг апазіцыі "Чарнобыльскі шлях". Па афіцыйных звестках, у ім прыняло ўдзел каля 4 тысяч чалавек. Людзі, каму таксама баліць Чарнобыль, прайшлі калонамі ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Парыжскай камуны, дзе адбыўся мітынг. Здавалася б, ніякіх інцыдэнтаў не адбылося, усё праходзіла ў межах закона. Аднак пасля акцыі былі затрыманы больш за 20 удзельнікаў "Чарнобыльскага шляху". Міліцыя знайшла нейкую зачэпку і абвінаваціла затрыманых у парушэнні грамадскага парадку.**

**Большасць з іх былі расіяне, актывісты дэмакратычных маладзёжных арганізацый, якія прыехалі, каб прыняць удзел у "Чарнобыльскім шляху". Пасля ўмяшання пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі, 27 красавіка, яны былі адпраўлены ў Маскву.**

**НА ЗДЫМКУ: "Чарнобыльскі шлях — 98".**

**Фатаграфіі на паласе зроблены фотакарэспандэнтам Віктарам СТАВЕРАМ.**

СПОРТУ — ДЗЯРЖАЎНЫ КЛОПАТ

# НОВЫ АЛІМПІЙСКІ АБ'ЕКТ

У бліжэйшы час у Беларусі стане на адзін алімпійскі аб'ект больш. Аднак яго ўзнікненне не будзе звязана ні з закладкай першага каменя, ні з новабудоўляй. 17 сакавіка Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне "Аб некаторых пытаннях па стварэнню спартыўна-аздараўленчага комплексу "Алімпійскі" Нацыянальнага алімпійскага камітэта".

Згодна з гэтым дакументам, ва ўпраўленне Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі перадаюцца вучэбна-бытавыя карпусы Акадэміі фізічнага выхавання і спорту на праспекце Скарыны, Інструментальнаму завулку, вуліцы Сурганава, вуліцы Я. Коласа, бытавыя і дапаможныя памяшканні ўпраўлення будаўніцтва "Мінскметрабуда" па праспекце Скарыны, будынак былой агульнаадукацыйнай школы № 103, які цяпер займае навукова-даследчае аб'яднанне "Кібернетыка" Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, комплекс будынкаў і збудаванняў Рэспубліканскага водна-спартыўнага камбіната, вучэбна-бытавы корпус Рэспубліканскага вучэбна-метадычнага цэнтра па фізічнай культуры і спорту на вуліцы Сурганава... Акрамя таго, тут жа прадугледжана будаўніцтва крытай 400-метровай канькабежнай дарожкі штучнага льду і некаторых іншых аб'ектаў. Па словах выканаўчага дырэктара Нацыянальнага алімпійскага камітэта Яраслава Барычко, "у краіне ёсць усе перадумовы для паспяховага развіцця канькабежнага спорту, і было б немэтазгодна траціць сродкі на падрыхтоўку беларускіх спартсменаў за рубяжом".

Водна-спартыўны камбінат будзе па-ранейшаму выконваць свае функцыі, і аматары плавання ніякім чынам не адчуюць на сабе яго пераход у ранг "алімпійскага аб'екта".

Мяркуецца, што пасля рэканструкцыі паслугамі спартыўна-аздараўленчага комплексу змогуць карыстацца не толькі спартсмены-алімпійцы, але і простыя грамадзяне. Улічваючы колькасць пляцовак, якія зойме будучы комплекс і яго магутнасці, гэта зусім рэальна. Новы спартыўна-аздараўленчы комплекс ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку вызваляецца ад уплаты ўсіх відаў падаткаў (акрамя падаходнага). Улічваючы прыярытэты беларускіх уладаў, можна чакаць, што праблем з фінансаваннем праекта не ўзнікне. Згодна з распараджэннем Прэзідэнта, спартыўна-аздараўленчы комплекс "Алімпійскі" ўключаны ў пералік будоўляў інвестыцыйнай праграмы на 1998 і наступныя гады, таксама прадугледжана выдзяленне сродкаў на тэхнічнае аснашчэнне, рамонт і рэканструкцыю яго аб'ектаў. Мяркуецца, што ў месячны тэрмін будзе створана рабочая група ў складзе прадстаўнікоў Нацыянальнага алімпійскага камітэта, Міністэрства спорту і турызму, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, Мінскага гарвыканкома з прыцягненнем службовых асоб іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання для падрыхтоўкі эканамічнага абгрунтавання, разлікаў па дзяржаўных капітальных укладаннях і вырашэння іншых пытанняў, звязаных са стварэннем спартыўна-аздараўленчага комплексу "Алімпійскі". У бліжэйшы час Нацыянальны алімпійскі камітэт, Міністэрства спорту і турызму, Мінгарвыканком павінны зрабіць карэкціроўку схемы генеральнага плана будаўніцтва спартыўна-аздараўленчага комплексу, вызначыўшы перспектывы развіцця і функцыянальнае прызначэнне яго аб'ектаў.

На традыцыйным суботніку беларускія спартсмены-алімпійцы заклалі парк на тэрыторыі спартыўна-аздараўленчага комплексу.

**Вера АНТОНАВА.**

ЗНЕШНІЯ СУВЯЗІ

# БЕЛАРУСЬ — В'ЕТНАМ: ЗАЎТРА НАШАГА ЭКСПАРТУ

**У Ханоі пачаў працаваць Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Сацыялістычнай Рэспубліцы В'етнам Алег Чакуноў. Ён узначаліў першую дыпламатычную місію Беларусі ў В'етнаме. Да гэтага часу наша краіна мела там толькі гандлёвае прадстаўніцтва. Перад ад'ездам Алег ЧАКУНОЎ даў інтэрв'ю.**

*— У 1993—1996 гадах вы працавалі ў В'етнаме старшым экспертам і саветнікам у гандлёвым прадстаўніцтве Беларусі. Значыць, вы едзеце, хутчэй, працягваць работу, чым пачынаць, няхай і ў новай якасці. Якія напрамкі дзейнасці пасольства вы лічыце для сябе прыярытэтнымі?*

— Перш за ўсё, гэта пашырэнне двухбаковых гандлёва-эканамічных адносін. Яны ў нас склаліся даўно, але іх дыяпазон яўна недастатковы. У В'етнаме традыцыйна карыстаюцца попытам нашы кар'ерныя самазвалы "БелАЗ", і парк гэтых машын даўно патрабуе абнаўлення. Досыць папулярныя і беларускія "МАЗы". Стабілізацыя цэнавай палітыкі Мінскага аўтамабільнага завода адкрывае перспектывы для абнаўлення паставак гэтых аўтамабіляў-цяжкавагавікоў. У В'етнаме наладжана зборка матацыклаў Мінскага мотавелазавода, і Беларусь ужо "трымае" каля 10 працэнтаў в'етнамскага рынку матацыклаў. Калі павялічыць квоту на пастаўку прадукцыі гэтага прадпрыемства, то ўжо ў 1999 годзе мы маглі б прадаваць там да 15 тысяч матацыклаў у год. Ёсць магчымасць расшырыць рынак збыту і мінскіх падшыпнікаў, асабліва іх роліка-сферычнай групы, за кошт паўночных раёнаў В'етнама. У 1997 годзе прадукцыя Мінскага падшыпнікавага завода толькі ў гэтай азіяцкай краіне дазволіла выручыць 442 тысячы долараў ЗША. Упэўнены: трэба нарошчваць і экспарт прадуктаў хімічнай прамысловасці, а таксама некаторых іншых тавараў. Сёння перад нашым пасольствам рэальная задача садзейнічаць павелічэнню аб'ёму паставак беларускай прадукцыі ў 1999 годзе да 25—30 мільёнаў долараў ЗША.

*— Якое месца сёння займае В'етнам сярод іншых знешнегандлёвых партнёраў Беларусі?*

— Паводле даных дзяржаўнай статыстыкі, у мінулым годзе ён займаў 16-е месца сярод партнёраў, з якімі рэспубліка мае станоўчае сальда знешнегандлёвага балансу, а па аб'ёмах экспарту — усяго толькі 34-е. Лічу, што можна дабіцца і больш поспехаў.

*— І гэта нягледзячы на цяжкасці, якія цяпер зведвае в'етнамская эканоміка?*

— Так. Цяжкі фінансавы крызіс у краінах Паўднёва-Усходняй Азіі (Інданезіі, Тайландзе, Паўднёвай Карэі) моцна "падкасіў" імпарт у В'етнам. Ён стаў нерэнтабельным з-за працяглай дэвальвацыі нацыянальнай валюты. Але, будзем спадзявацца, гэта часовыя цяжкасці, і в'етнамская эканоміка зможа іх пераадолець.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**
**("Национальная экономическая газета").**

# БелАЗу ПАТРЭБНЫ БЕРАГ ТУРЭЦКІ

Для ўдзелу ў тэндэры на пастаўку кар'ернага абсталявання ў Турцыю БелАЗ арганізаваў прэзентацыю сваёй прадукцыі ў Анкары.

Па словах генеральнага дырэктара знешнегандлёвай фірмы "БелАЗтрэйдкарпарэйшн" Сяргея Есіна, апошнія пяць гадоў з турэцкімі фірмамі сур'ёзных камерцыйных размоў не вялося, прадпрыемства абмяжоўвалася пастаўкамі асобных запасных частак. Усё гэта адбілася на прэстыжы Беларускага аўтазавода як партнёра. У бліжэйшыя гады ў Турцыі мяркуецца ажыццявіць шэраг буйных эканамічных праектаў, для якіх спатрэбіцца і спецыяльная кар'ерная тэхніка. Магчыма, будзе аб'яўлены тэндэр на пастаўку абсталявання і машын, якія ў Турцыі не выпрацоўваюцца. Таму было вырашана правесці прэзентацыю Беларускага аўтазавода ў Анкары.

На погляд Есіна, прэзентацыя ўдалася. "БелАЗтрэйдкарпарэйшн" цікава паказаў жодзінскіх вытворцаў велікагрузнай аўтатэхнікі: новае пакаленне аўтамабіляў, новы падыход да ўзаемаадносін з кліентам.

Калі раней прадавалі аўтамабіль і на ўсе пытанні, што заставаліся па-за здзелкай, адказвалі: "Гэта вашы праблемы", то сёння падыход якасна іншы. У кантрактах, калі такія будуць, з'явяцца запісы з новымі абавязацельствамі завода: з улікам росту якасці выпускаемых аўтасамазвалаў расшыраюцца граніцы гарантый.

Акрамя таго, Сусветны банк развіцця ўключыў БелАЗ у лік сусветных прадпрыемстваў, на якія рыхтуе лісты спецыфікацый сучасных патрабаванняў да выпускаемай тэхнікі, напрыклад, па бяспецы эксплуатацыі, надзейнасці і шэрагу іншых параметраў. У спецыфікацыях ёсць рэкамендацыі па кожнаму тыпу абсталявання. Так што, калі ты трапіў у лік гэтых прадпрыемстваў, то рабіць тэхніку лепш, чым рэкамендуецца, можаш, горш — не. Пры гэтым адкрываюцца новыя магчымасці па яго продажу. БелАЗ, па думку спецыялістаў дэпартамента праектаў Сусветнага банка, сёння многім рэкамендацыям адпавядае.

Уся прэзентацыя, па словах спадара Есіна, была накіравана на азнаямленне з новымі мадэлямі, каб патэнцыяльны пакупнік зразумеў, што Беларускі аўтазавод у стане сёння прапанаваць аўтатэхніку з пазнаваемымі за рубяжом кампанентамі, у прыватнасці, з рухавікамі вядомых фірм, а гэта само па сабе — гарантыя якасці.

Сяргей Есін адзначыў, што рынкі даўно ўжо падзелены, пустых ніш няма. На рынку кар'ернай тэхнікі ў Турцыі выключна моцныя пазіцыі вядомага вытворцы — канцэрна "Катэрпілер". У "Катэрпілера", а таксама ў "Дрэсера" ў Турцыі існуе добра наладжаная інфраструктура, якая ўключае ў сябе і сэрвісныя цэнтры, і цэнтры абучэння, і многае іншае, што садзейнічае продажу і надзейнай эксплуатацыі кар'ернай тэхнікі.

Беларусь, па сутнасці, "лезе" ў гэтую нішу, каб у кагосьці нешта адабраць. Пакуль размова ідзе пра 30-тоннік, але ў далейшым планецца паднясць танаж прадаваемай БелАЗам тэхнікі, таму ўжо сёння прапаноўваюцца 42-, 55-, 120-тоннікі. Але гэта больш буйныя праекты, якія патрабуюць часу для іх распрацоўкі і рэалізацыі.

**Уладзімір ЯЎСЕЕЎ.**
**("Белорусский рынок").**

АД МАМІНАГА ПАЛІСАДНІКА ДА БАТАНІЧНАГА САДУ

# СОНЦА Ў ВЯРГІНЯХ БЕЛАРУСІ



Сярод кветак, што выкарыстоўваюцца ў дэкаратыўным садаводстве свету, адныімі з найбольш папулярных з'яўляюцца вяргіні. Яны вызначаюцца разнастайнасцю форм і багаццем гамы афарбоўкі суквеццяў, працяглым — да глыбокай восені — цвіценнем. Радзіма расліны — горныя раёны сонечнай Мексікі, Калумбіі, Гватэмалы. У Еўропе яна стала вядомай з канца XVIII стагоддзя, а ў Расіі — у пачатку XIX. У Беларусі вяргіням ужо больш за 100 гадоў. З цягам часу сартавая разнастайнасць гэтых кветак павялічваецца. І калі ў каталогу першага селекцыянера, прыдворнага садоўніка Брайтэра з Лейпцыга ў 1806 годзе налічвалася 103 сарты, то на сённяшні ў сусветны асартымент складае звыш 12 тысяч відаў. Сярод іх у апошняе дзесяцігоддзе набылі вядомасць і займаюць дастойнае месца нашы беларускія сарты. І ў гэтым немалая заслуга селекцыянера, навуковага супрацоўніка Цэнтральнага батанічнага саду Нацыянальнай акадэміі навук Ірыны Карэўкі.

Шлях ад насення да сорту доўгі і цяжкі. Практыка прымянення ў селекцыйнай рабоце эксперыментальнага мутагенеза (апрацоўка насення гама-промнямі і хімічнымі мутагенамі), што атрымала шырокае распаўсюджанне ў кветаводстве ў 80-я гады, дазволіла атрымаць мноства перспектыўных мутантных сеянцаў вяргіў з прыгожай афарбоўкай і формай суквецця. Давядзенне ж да сартоў запатрабавала доўгіх гадоў упартай працы. Ірыне Аляксандраўне гэтая праца аказалася па сілах.

Ірына Карэўка нарадзілася 60 гадоў назад у вёсцы Верамейкі (цяпер Вязынка) у сялянскай сям'і. З дзяцінства памятае мамін палісаднік, дзе буялі вяргіні, рудбекіі, мальвы. Жыццё складвалася няпроста. Пасля заканчэння Радашковіцкай сярэдняй школы працавала ткачыхай на камвольным камбінаце ў Мінску, выхавальніцай дзіцячага сада, вучылася на завочным аддзяленні біяфака Белдзяржуніверсітэта. У Цэнтральны батанічны сад прыйшла на пасаду лабаранта ў фондавую аранжарэю ў 1965 годзе. Тут і адбылася яе першая сустрэча з адной са старэйшых захавальніц калекцыйнага фонду Праскоўяй Ляўданскай, памяць і глыбокая павага да якой захоўваецца і па сёння. Неўзабаве Ірына Карэўка становіцца куратарам калекцый вяргіняў і дэкаратыўных аднагадлетнікаў: на пасадзе навуковага супрацоўніка яна прысвяціла ім ужо 33 гады карпатлівай і ўпартай працы. Яе калекцыя вяргінь па праву лічыцца адной з лепшых у Еўропе. Ужо атрымалі прызнанне і вядомасць беларускія сарты, аўтарам якіх з'яўляецца Ірына Карэўка. Характэрнай асаблівасцю многіх з іх стала незвычайная сонечная афарбоўка — сапраўднае сонца ў вяргінях. Тут і адзін з першых сартоў — "Купалінка", затым "Родны кут", што атрымаў залаты медаль у Эрфурце на Міжнароднай выставе ў 1992 годзе, "Ефрасіння Полацкая", "Стафанія" (у гонар Стафаніі Станюты), "Ксенія" (у памяць аб маці Ксеніі Іванаўне), "Легенда". Новыя беларускія сарты — "Данчык", "Дыядэма". Мы ад усёй душы жадаем Ірыне Аляксандраўне плёну ў працы на карысць нашай Бацькаўшчыны.

**Іван ВАЛАДЗЬКО, Нэлі ГЕТКО,**
**доктар біялагічных навук.**



**У Бараўлянах, што пад Мінскам, адбылося ўрачыстае адкрыццё "SOS — сацыяльнага цэнтра маці і дзіцяці" імя Германа Гмайнера, які будзе дзейнічаць пры "SOS — дзіцячай вёсцы". Яна адкрыта ў Бараўлянах у 1995 годзе.**

**"SOS — сацыяльны цэнтр" у Бараўлянах — гэта чатыры двухпавярховыя дамы-катэджы з усімі выгодамі, у якіх адначасова праходзяць аздараўленне разам са сваімі маці 25—30 дзяцей. Аслабленыя дзеці з раёнаў чарнобыльскай зоны, з малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў праходзяць тут сацыяльную рэабілітацыю, атрымліваюць палепшанае збалансаванае харчаванне, фітатэрапію, займаюцца лячэбнай фізкультурай. "SOS — сацыяльны цэнтр маці і дзіцяці" пабудаваны і абсталяваны на сродкі гуманітарный дапамогі пры садзейнічанні міжнароднай "SOS"- арганізацыі і нямецкага фонду імя Германа Гмайнера.**

**На афіцыйным адкрыцці цэнтра прысутнічалі старшыня Мінскага аблвыканкома Пётр Пётух і прэзідэнт Міжнароднай "SOS — Кіндэрдорф Інтэрнацыяналь" Хельмут Куцін.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час урачыстага адкрыцця "SOS — сацыяльнага цэнтра маці і дзіцяці" ў Бараўлянах; у гэтых дамах размясціўся цэнтр; так камфортна выглядаюць інтэр'еры жылых дамоў цэнтра, дзе праходзяць аздараўленне дзеці разам з маці.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**





**З ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ**

# АКУПАЦЫЯ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Для ўсеабдымнай падрыхтоўкі грабежніцкай вайны супраць Савецкага Саюза характэрнае тое, што ў цесным супрацоўніцтве паміж манапаліямі, дзяржаўнымі планавымі органамі і вермахтам была створана цэлая сістэма новых дзяржаўна-манапалістычных механізмаў кіравання з незвычайна разгалінаваным выканаўчым апаратам.

У загадзе вайсковага інтэнданта вярхоўнага камандавання германскай арміі "Аб забеспячэнні войск" № 109/4 ад 16 чэрвеня 1941 года (за пяць дзён да пачатку вайны супраць СССР!): "Агульнае напружанае прадуктовае становішча ў Германіі больш не дазваляе папаўняць састаў абозаў і забеспячэнне за яе кошт. Аб гэтым павінен памятаць кожны камандзір і начальнік у час аперацыі ў краіне праціўніка. Для захавання запасаў у Германіі войскі павінны жыць за кошт мясцовай сельскай гаспадаркі".

Агульнае кіраўніцтва гэтымі разбойніцкімі акцыямі ажыццяўляў Герынг, які сам стаў буйным манапалістам. Указам Гітлера ад 29 чэрвеня 1941 года Герынг надзяляўся надзвычайнымі паўнамоцтвамі па выкарыстанню эканомікі акупіраваных тэрыторый на ўсходзе ў інтарэсах расшырэння і развіцця ваеннай эканомікі Германіі. 16 ліпеня 1941 года на нарадзе вышэйшага кіраўніцтва нацысцкай Германіі Гітлер заявіў, што акупіраваныя савецкія землі павінны быць далучаны да рэйха назаўсёды.

На наступны дзень, 17 ліпеня 1941 года, у галоўнай кватэры фюрэра быў зацверджаны шэраг найважнейшых дакументаў аб грамадзянскім кіраванні захопленымі савецкімі землямі. Гітлер падпісаў указ аб стварэнні міністэрства акупіраваных усходніх тэрыторый, якое ўзначаліў Альфрэд Розенберг, указ аб стварэнні рэйхскамісарыята "Остланд" на чале з рэйхскамісарам Генрыхам Лозе. У "Остланд" увайшлі генеральныя акругі Латвія, Літва, Эстонія і значная частка Беларусі. Генеральным камісарам генеральнай акругі Беларусь Гітлер 17 ліпеня 1941 года назначыў Вільгельма Кубэ. Генеральны камісарыят у Мінску быў вышэйшай інстанцыяй цывільнай адміністрацыі ў частцы Беларусі на захад ад Барысава, якая ўваходзіла ў генеральную акругу Беларусь. Беларускія землі на ўсход ад Барысава з'яўляліся вобласцю тылу групы армій "Цэнтр". Тут вышэйшая ўлада была ў руках камандуючага, а гаспадарчымі справамі займаўся гаспадарчы штаб "Усход".

6 верасня 1941 года Герынг падпісаў спецыяльнае распараджэнне аб арганізацыі вывазу і выкарыстання сыравіны з акупіраваных абласцей Савецкага Саюза. У ім указваецца: "3. Велічыня рускай прасторы і неабходнасць увязваць вываз сыравіны з усімі спажыўцамі ў транспарце патрабуе, аднак, адзінага спосабу дзеянняў розных ваенных і цывільных органаў як у зоне канфіскацыі, вывазу, так і выкарыстання сыравіны на месцы. Таму назначаю генерал-лейтэнанта Віцінга генеральным інспектарам па канфіскацыі і выкарыстанню сыравіны ў акупіраваных усходніх абласцях.

Згодна з маімі ўказаннямі, генеральны інспектар павінен праводзіць наступную работу:

а) правяраць правядзенне работ па канфіскацыі і вывазу сыравіны ва ўсіх ваенных і цывільных установах;

б) сачыць за тым, каб расходаванне сыравіны на месцы ў акупіраваных абласцях не перавышала неабходных памераў, якія ўстаноўлены мною па ўзгадненню з рэйхсміністрам гаспадаркі;

в) увязваць работу ўсіх органаў, якія займаюцца канфіскацыяй і вывазам сыравіны, і ўрэгуляваць чарговасць адпраўкі..."

Дарэчы, вопыт такой работы ў Віцінга быў: з 2 ліпеня 1940 года па 10 верасня 1941 года ён як "інспектар па канфіскацыі і выкарыстанню сыравіны ў Бельгіі і Францыі выконваў задачы па канфіскацыі і вывазу стратэгічнай ваеннай сыравіны з акупіраваных заходніх абласцей".

У сваім распараджэнні Герынг падкрэсліў: "Таксама і ў акупіраваных усходніх абласцях неадкладнай задачай генерал-лейтэнанта Віцінга з'яўляецца клопат аб тым, каб уся захопленая сыравіна пападала ў Германію, дзе б яна была рацыянальна выкарыстана ў гаспадарцы, і каб не мелі месца самавольныя замахі з боку асобных устаноў".

17 ліпеня 1941 года ў Берліне ў сяміпакаёвай кватэры на Флотаўштрасе, 11, сабраліся прадстаўнікі нямецкіх кампаній, якія спецыялізаваліся па збожжу, жывёлагадоўлі, малаку, тлушчах, яйках, насеннягодству, і камерцыйная група. Вынікам іх сустрэчы быў дагавор аб стварэнні Цэнтральнага гандлёвага таварыства "Усход" па нарыхтоўцы і збыту сельскагаспадарчай прадукцыі з абмежаванымі паўнамоцтвамі (ЦГТ "Усход").

Практычнай задачай таварыства было разграбленне рэсурсаў занятых усходніх абласцей.

У сваёй службовай дырэктыве № 1 ад 18 жніўня 1941 года начальнік камерцыйнай групы харчавання вызначыў тэрмін і аб'ём дзейнасці ЦГТ. У адпаведнасці з гэтай дырэктывай ЦГТ неадкладна разгортвала сваю дзейнасць на ўсёй тэрыторыі, якую акупіравалі нямецкія войскі пасля 22 чэрвеня 1941 года, за выключэннем Беластоцкай і Львоўскай абласцей і зямель, якія адышлі да Румыніі, а таксама тэрыторыі тылу армій.

Гэтай дырэктывай былі вызначаны наступныя задачы дзейнасці ЦГТ:

1. Нарыхтоўка ўсякага роду сельскагаспадарчай прадукцыі.

2. Забеспячэнне сельскай гаспадаркі сродкамі вытворчасці і таварамі першай неабходнасці.

3. Прыём пад сваё кіраванне сельскагаспадарчых апрацоўчых і перапрацоўчых прадпрыемстваў.

Сістэма нарыхтоўкі і рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі службовай дырэктывай № 1 упаўнаважанага па 4-гадоваму плану рэгулявалася наступным чынам: у першую чаргу павінны задавальняцца патрэбы войск. Задача заключалася ў тым, каб дзве трэці нямецкага вермахта забяспечвалася за кошт акупіраванай рускай тэрыторыі. Рэшткі павінны былі вывозіцца ў Германію, а калі ў іх не адчуваў "крайняй неабходнасці" рэйх, то заставаліся для забеспячэння мясцовага насельніцтва. Структура ЦГТ была простай і мабільнай. Цэнтральнае праўленне ЦГТ складалася з камерцыйнага і агульнага кіраўніцтва на чале з Фляйшбергерам і аддзелаў — нарыхтовак, забеспячэння і кіравання. Яно ажыццяўляла агульнае кіраўніцтва і планаванне, а таксама ўнутранае праўленне, займалася пытаннямі прызначэння і перамяшчэння кадраў, стварэннем новых кантор, пытаннямі адпраўкі ў Расію новых экспедыцый, распараджалася прадукцыяй, прызначанай для адпраўкі ў рэйх.

У рэйхскамісарыятах "Остланд", "Украіна" і на тэрыторыі тылу групы армій "Цэнтр" ЦГТ стварыла галоўныя канторы. У "Остландзе" галоўная кантора ЦГТ знаходзілася ў Рызе. На беларускіх землях, якія падпарадкоўваліся "Цэнтру", галоўная кантора ЦГТ была ў Барысаве. Планавалася, калі бліцкрыг удасца, перамясціць яе ў Маскву, але яна заставалася ў Барысаве да мая 1944 года, а затым пераехала ў Мінск і далей — на захад.

Галоўныя канторы ЦГТ дзейнічалі праз камерцыйныя канторы. Так, барысаўская кантора кіравала камерцыйнымі канторамі ў Арле, Бабруйску, Віцебску і Оршы, рыжская — у Каўнасе, Мінску, Пскове і Таліне (Рэвелі). Кожная камерцыйная кантора мела 9 філіялаў і 61 аддзяленне.

Камерцыйныя канторы на акупіраванай тэрыторыі займаліся нарыхтоўкай сельгаспрадукцыі, кіраваннем апрацоўчымі і перапрацоўчымі прадпрыемствамі, забеспячэннем насельніцтва сродкамі вытворчасці і таварамі першай неабходнасці. Разлікі вяліся наступным чынам. Камерцыйныя канторы выстаўлялі рахункі і накіроўвалі Цэнтральнаму праўленню, якое перасылала іх у дзяржаўныя ўстановы, што аплачвалі вартасць тавараў, для чаго ЦГТ мела канторы ў дзяржаўных установах. Галоўныя канторы штомесячна атрымлівалі лічбы абароту камерцыйных кантор і паведамлялі цэнтральнаму праўленню. Галоўныя канторы давалі ўказанні аб руху тавараў і аб размеркаванні абавязкаў сярод супрацоўнікаў кантор.

Узаемаадносіны ЦГТ з іншымі манапольнымі таварыствамі, якія дзейнічалі на акупіраваных усходніх землях, былі ўзаемаўзгодненымі з карысцю для кожнага. ЦГТ удзельнічала ў грамадскім капітале таварыства "Усходнія валокны". Меркавалася, што ўсе пытанні, па якіх інтарэсы перакрыжоўваліся, будуць уладжваца на таварыскай аснове. Каб не пладзіць нарыхтоўчых кантор, камерцыйныя канторы ЦГТ, уключаючы мясцовыя нарыхтоўчыя арганізацыі, прадастаўляліся ў распараджэнне таварыства "Усходнія валокны" па жаданню апошняга. З Усходнім таварыствам па нарыхтоўцы скуры, футра, шэрсці і іншай прадукцыі было заключана пагадненне аб продажы гэтаму таварыству прадукцыі (асабліва з разніц), нарыхтаванай канторамі ЦГТ.

ЦГТ выступала ў ролі пакупніка прадукцыі акцыянернага таварыства "Усходняя нафта", таварыства "Горназдабываючая і металургічная прамысловасць "Ост" з абмежаванымі паўнамоцтвамі, у якіх закупляла гаручае, вугаль для перапрацоўчых прадпрыемстваў. Да кіравання перапрацоўчымі прадпрыемствамі ЦГТ прыцягвала нямецкіх прадпрымальнікаў. Так, у Мінску кіраўніцтва мясакамбінатам прыняла на сябе буйная гамбургская фірма па гандлю мясам, уладальнікам якой былі Хрысціян Шульц і сын, у Баранавічах — Вільгельм Меленбек.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**(Працяг будзе).**

# МЯЦЕЖНЫ ПРАКУРОР

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

справа ваеннага пракурора Вайтэкі атрымала нечаканы працяг.

Неяк нарком абароны СССР маршал Варашылаў атрымаў асабістае пісьмо ад нейкага І. Якаўлева, які прадставіўся камандзірам запасу РККА.

"Дарагі нарком абароны, наш родны жалезны нарком таварыш Варашылаў!

Прашу прабачэння, што турбую сваім пісьмом, але я бачыў Вас у горадзе Варашылаўградзе, былым Луганску, калі Вы там фарміравалі часці на грамадзянскай вайне. Верны Вашым запаветам, я працягваю змагацца з ворагамі народа. І гэта пісьмо прадыктавана такой барацьбой.

Я ведаю нейкага Яцэнку, які быў некальki гадоў назад асуджаны, і вось я яго нядаўна ўбачыў у сям'і ваеннага пракурара ЧФ. Аказваецца, Аляксандр Яцэнка брат жонкі пракурора. Трэба было б разблытаць гэты клубок ворагаў народа, таму што ніці цягнуцца вельмі далёка.

Цяпер я знаходжуся без працы і вымушаны прадаць тое-сёе з адзення, каб раскрыць яшчэ больш букет ворагаў народа. Але я адзін не ў сілах гэта зрабіць на месцы, таму што, як удзельнік работы НКУС, я застаўся без працы і пакінуў сям'ю сваю без грошай. Але ўсё ж прадаў тое-сёе і выехаў да Вас, наш дарагі і жалезны нарком Варашылаў. Хачу вас прасіць, каб Вы далі мне права як камандзіру запасу зноў служыць у нашай доблеснай Чырвонай Арміі. Я жадаю, я хачу ўсё жыццё праслужыць Вам, наш дарагі і жалезны нарком таварыш Варашылаў. Таму што я як камуніст-бальшавік прарабіў на гаспадарчай рабоце ў РККА дзесяць гадоў і ў мяне ёсць практыка службы ў марскіх сілах Чорнага мора. Я працаваў там увесь час па гаспадарчай часці. А цяпер жыву вельмі і вельмі дрэнна матэрыяльна толькі таму, што я пастаянна выяўляю гэтых заўзятых ворагаў народа, і мне адразу робяць такія ўмовы жыцця, што я застаюся за бортам".

Гэта дзіўнае пісьмо — своеасаблівая візітная картка часу. Характэрная асоба даносчыка: працаваў "увесь час па гаспадарчай часці", цяпер жыве "вельмі і вельмі дрэнна матэрыяльна", за аказаную паслугу разлічвае атрымаць свае трыццаць срэбранікаў — можна пасадай па той жа гаспадарчай часці. Ці атрымаў даносчык чаканую ўзнагароду, мы не ведаем. Гісторыя не адзначыла ў сваіх аналах гэтую падзею. Але дакладна вядома іншае: са стала маршала Варашылава пісьмо з даносам паляцела не ў скрынку для смецця, а ў ведамства Мікалая Яжова.

Тут такім паведамленням заўсёды забяспечвалася зялёнае святло. У найкарацейшы тэрмін факт, выкладзены ў пісьме, быў правераны, асоба пракурора Вайтэкі вывучана ва ўсіх праявах і сувязях, а сам ён узяты пад нагляд аператыўных службаў НКУС.

Неўзабаве ў сценах гэтага ведамства складаецца даведка па справе Вайтэкі з хадайніцтвам аб санкцыянаванні яго арышту. Дакумент падпісвае начальнік аддзела НКУС камісар дзяржбяспекі 3-га рангу Нікалаеў і накіроўвае яго Генеральнаму пракурору СССР Вышынскаму.

Але ў даным выпадку адбылося нечаканае, а ў пэўным сэнсе нават экстраардынарная з'ява: Вышынскі не адказаў камісару дзяржбяспекі. Відаць, тут адыграла сваю ролю тая акалічнасць, што Вайтэка займаў пракурорскую пасаду і ў гэтай якасці з'яўляўся падначаленым Вышынскага.

Але доўга гэта працягвацца не магло. Неўзабаве Вышынскі накладвае рэзалюцыю: "Тэрмінова. Тав. Ульянавай. Трэба азнаёміцца з гэтымі новымі матэрыяламі і, калі яны сур'ёзныя, даць санкцыю".

Начальнік 2-га аддзела Галоўнай ваеннай пракуратуры армваенюрыст Ульянава палічыла немагчымым вырашыць лёс пракурора Вайтэкі завочна, на падставе адных толькі матэрыялаў НКУС. Яна вырашае разабрацца з гэтай справай непасрэдна на месцы і з гэтай мэтай выязджае ў Севастопаль. Тут старанна вывучае крымінальныя справы, што знаходзяцца ў вытворчасці ваеннай пракуратуры Чарнаморскага флоту, доўга гутарыць з пракурорам Вайтэкам, яго саслужыўцамі і кіраўніцтвам наркамата ўнутраных спраў Крымскай АССР. Нарэшце робіць адназначны вывад: юрыдычных падстаў для арышту Вайтэкі недастаткова.

Атрымаўшы з Пракуратуры СССР такое рашэнне, начальнік упраўлення НКУС камбрыг Фёдараў паспяшаўся на прыём да наркома ўнутраных спраў.

Яжоў тут жа загадвае выпісаць ордэр на арышт Вайтэкі. Ставіць размашысты подпіс...

А ў гэты час ваенны пракурор Чарнаморскага флоту збіраецца ў Маскву. Сталёвыя цiскі паклёпаў, якія ўсё мацней сціскаюцца вакол яго, можна было разарваць толькі рашучым рыўком. І Павел Вайтэка вырашае звярнуцца непасрэдна да Генеральнага пракурора СССР.

Сустрэцца з Генеральным пракурорам яму так і не давялося. 25 чэрвеня 1938 года ваенны пракурор Чарнаморскага флоту брыгваенюрыст Павел Вайтэка быў арыштаваны. Здарылася гэта на вуліцы Вароўскага ў Маскве ў той момант, калі Павел Станіслававіч накіроўваўся ў прыёмную Вышынскага. Калі чорны ЗІС прытармазіў ля абочыны і з яго выйшлі двое ў цывільным, перагарадзіўшы дарогу, Павел Вайтэка ўсё зразумеў. Ён не аказаў супраціўлення, ды і высвятляць падставы арышту ў аператыўнікаў не мела сэнсу. Моўчкі працягнуў ім партфель з дакументамі і сеў у машыну...

У засценках Яжова мала каму ўдавалася пазбегнуць псіхічнага надлому. Не пазбегнуў гэтай долі і Павел Вайтэка. У справе маецца ўласнаручнае прызнанне арыштаванага ў контррэвалюцыйнай дзейнасці.

У пераліку саўдзельнікаў змовы Вайтэка не назваў ніводнага, хто знаходзіўся б на волі. Усе прозвішчы былі ўзяты з рэальных крымінальных спраў і належалі сапраўдным ці ўяўным суб'ектам злачынстваў. Гэтыя справы былі даўно завершаны справаводствам, і паказанні Вайтэкі наўрад ці маглі істотным чынам паўплываць на лёсы асоб, што праходзілі па іх. Ваенны пракурор не столькі выкрываў іншых, колькі прызнаваў свой саўдзел у іх злачынствах.

Неўзабаве ён знаходзіць у сабе сілы для супраціўлення. У поўнай меры разумеючы вынікі свайго кроку, ён адмаўляецца ад сваіх паказанняў.

З пратаколу допыту абвінавачанага П. Вайтэкі:

Пытанне: На папярэднім допыце мы прыводзілі вам паказанні шэрагу змоўшчыкаў, якія выкрывалі вас у змоўніцкай дзейнасці, якую вы адмаўляеце. А як сёння, калі мы будзем прыводзіць вам канкрэтныя матэрыялы і даныя вашай падрыўной работы, таксама будзеце адмаўляць?

Адказ: Прывядзіце гэтыя факты, я дам па іх тлумачэнні.

Пытанне: Мала растлумачыць, трэба прызнаць сваю падрыўную работу!

Адказ: Я яе не праводзіў і таму не магу прызнаць.

Пытанне: А чым растлумачыце такія факты, як адмовы санкцый на арышты варожых Савецкай уладзе элементаў — трацкістаў, тэрарыстаў і г. д.?

Адказ: Выпадкі адмоў санкцый на арышт былі, але яны не з'яўляліся вынікам злога намеру ці варожасці...

Матрос тэрміновай службы М. Богдан быў арыштаваны асобым аддзелам ЧФ за выказванні на палітзанятках меркаванні аб калектывізацыі, якія не адпавядаюць генеральнай лініі партыі. Была ўзбуджана крымінальная справа, праведзена расследаванне, факт такога тыпу выказванняў пацвердзіўся поўнасцю. Аднак ваенны пракурор ЧФ адмовіўся зацвердзіць абвінаваўчае заключэнне, бо ніводнага дзеяння, варожага існуючаму ладу, М. Богдан не ўчыніў. Што ж тычыцца абмену думкамі на палітзанятках, дык гэта, як вядома, зусім не прычына для таго, каб падводзіць удзельніка дыскусіі пад расстрэльны артыкул.

Другі выпадак быў звязаны з арыштам лейтэнанта флоту І. Байрачнага. У час моцнага шторму шхуну "Дэльфін" пад яго камандаваннем выкінула на мель. Па гэтаму факту асобы аддзел ЧФ правёў расследаванне, вынікам якога стала абвінаваўчае заключэнне. У ім адзначалася:

"Карыстаючыся блізкасцю румынскіх берагоў, Байрачны з мэтай ажыццяўлення сваіх здрадніцкіх задум і скарыстаўшы вялікі шторм, хаця становішча было і не безвыхадным, спрабаваў разлажыць каманду шхуны і перакананаць яе ў неабходнасці здачы румынскім уладам".

Разглядаючы гэтую справу ў парадку пракурорскага нагляду, Вайтэка не знайшоў дастатковых падстаў для прыцягнення лейтэнанта Байрачнага да крымінальнай адказнасці і вынес пастанову аб спыненні крымінальнай справы за недаказанасцю абвінавачвання. Цяпер жа гэтае рашэнне ваеннага пракурора было пастаўлена яму ў віну.

З архіўнага пылу было выцягнута нямала і іншых крымінальных спраў, што разглядаліся ваеннай пракуратурай ЧФ.

Цяпер жа за ўсё гэта ваеннаму пракурору быў прад'яўлены рахунак.

З абвінаваўчага заключэння па справе Вайтэкі Паўла Станіслававіча, 1894 года нараджэння, члена ВКП(б):

"Следствам устаноўлена, што Вайтэка з'яўляўся ўдзельнікам антысавецкай ваеннай змовы, праводзіў варожую работу па захаванню змоўніцкіх кадраў РККА, змазваў судовыя справы па контррэвалюцыйных злачынствах...

Справа па абвінавачванню Вайтэкі падлягае накіраванню пракурору СССР тав. Вышынскаму для разгляду і перадачы па падсуднасці...

Следчы асобага аддзела ГУДБ НКУС СССР старшы лейтэнант дзяржбяспекі Ражаўскі".

"Імем Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Ваенная калегія Вярхоўнага суда Саюза ССР у складзе:

старшынствуючага — брыгваенюрыста Кандыбіна,

членаў: брыгваенюрыстаў Сусліна і Дзеціцава, пры сакратары — ваенным юрысце 3 рангу Бычкове

у закрытым судовым пасяджэнні, у гор. Маскве, 28-га лютага 1940 года разгледзела справу па абвінавачванню Вайтэкі Паўла Станіслававіча...

Вайтэка, будучы на пасадзе ваеннага пракурора Чарнаморскага флоту, у інтарэсах антысавецкай змоўніцкай арганізацыі ўтойваў варожую дзейнасць ворагаў народа... і асабіста сам праводзіў падрыўную дзейнасць у пракурорска-следчай рабоце.

Прызнаючы Вайтэку вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, Ваенная калегія Вярхоўнага суда Саюза ССР прыгаварыла:

Вайтэку Паўла Станіслававіча пазбавіць ваеннага звання брыгваенюрыста і падвергнуць пазбаўленню волі ў ППЛ тэрмінам на 15 гадоў з паражэннем у палітычных правах на пяць гадоў і з канфіскацыяй маёмасці, што асабіста яму належыць.

Тэрмін падсуднага Вайтэкі з залікам папярэдняга зняволення вылічваць з 25 чэрвеня 1938 года.

Прыгавор канчатковы і абскарджанню не падлягае".

Такая формула асуджала чалавека надоўга. З гэтага часу ўсе юрыдычныя магчымасці перагляду прыгавору і рэабілітацыі выключаліся.

Але там, дзе бяссільнае права, вырашае ўлада. І Вайтэка звяртаецца да яе вышэйшага носьбіта. 24 сакавіка 1940 года ён піша пісьмо Сталіну.

І яно не засталося без увагі. Галоўная ваенная пракуратура атрымлівае ўказанне разабрацца і прыняць прадугледжаныя законам меры.

Ваенюрыст 1-га рангу Заварзіну даручаецца вывучыць справу і прадставіць свае меркаванні. Праз непрацяглы час у справе ваеннага пракурора Чарнаморскага флоту з'яўляецца дакумент за подпісам Заварзіна: "Лічу: Вайтэка асуджаны правільна. Падстаў для прынясення пратэсту няма".

Так завяршыўся няроўны паядынак ваеннага пракурора з "ахоўнікамі закона". Далейшы свой лёс Павел Станіслававіч падзяліў з тымі, каго беспасяхова спрабаваў абараніць. Яго апошнія сляды згубіліся недзе ў Сібіры, на этапе ў Нарыльлаг.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

## СЭРЦУ МІЛАЕ

## МАЛАЯ РАДЗІМА

Вось пішуць: малая радзіма. Што гэта такое? Адкуль і дакуль яе межы?

Пра гэта я і пачаў думаць, ступіўшы на зямлю сваёй малой радзімы, маёй палескай вёскі Астражанкі. Памойму, яна гэта абсяг нашага дзяцінства. Іншымі словамі, тое, што могуць бачыць дзіцячыя вочы і што прагне ўвабраць у сябе чыстая, шчырая душа, дзе гэтая душа ўпершыню здзівілася, узрадавалася і аж зайшлася ад шчасця. І дзе ўпершыню засумавала, узлавалася або перажыла першае ўзрушэнне.

Ціхая вуліца, матчын агародчык, які запрашае, цягне да сябе, каб пачаставаць самымі смачнымі, вясковымі ласункамі: морквай, агуркамі, бобам. Потым сад, дзе вясне з яблынь цыбулевымі пляцёнкамі галлё з чырванабокімі яблыкамі. За садам — духмяны абшар поплава, да якога хочацца, як у дзяцінстве напераганкі з хлапчукамі-сябрамі, пабегчы і бухнуцца там у азярыну, якая блішчыць на сонцы ў канцы сенажаці, доўга малацiць нагамі па вадзе, даваць і даваць нырца.

А вось нарэшце і рэчка, пятлявая, вёрткая, якая так і хоча ўцячы ў лазнякі. За ракою — суседняя вёска, і заходзіць за раку не трэба: гэта ўжо іншы, забаронены прасцяг. Там жывуць свае хлапчукі, і ім на вочы аднаму лепш не трапляцца.

Вось, зрэшты, і ўвесь дзіцячы сусвет. Але і гэтага абшару хапае, каб за дзень, пакуль не зваліцца за лес сонца, набегацца і змарыцца. А потым цябе ўжо сонная падхопіць на рукі маці і панясе твае падрапанае, абмяклае цела ў ложак. І прысніцца, быццам залазіш ты на самае высокае дрэва, ускарабкваешся з халадком пад грудзьмі на самую вершаліну, якую жахліва разгойдвае вецер, каб паглядзець, а што ж там далей, за небасхілам? І раптам трэснула пад нагамі галіна, і ты вопрамеццю падаеш на зямлю. І, як бывае толькі ў сне, у самы апошні момант нехта спрытна падстаўляе рукі, нібы крылы, вецер падхоплівае цябе, і вось ты ўжо ляціш, набіраеш вышыню і заміраеш ад урачыстага захаплення.

Малая радзіма — гэта тое, што на ўсё жыццё адорвае нас спярша крыламі натхнення, потым трызнення і тугі па ёй.

## РАЗВІТАННЕ

Капаю на агародзе бульбу і час ад часу даю адпачыць не так целу, як вачам, якія стаміліся ўзірацца ў баразну. Распрамляюся, гляджу навокал і не магу наглядзецца на родную старонку.

Дзівосны абсяг ляжыць на ўсе бакі, і праз яго, то знікаючы за паваротамі, то паблісківаючы дугамі далёкіх плёсаў, прывольна струменіцца Прыпяць. Зірнеш налева — за пагоркамі, нібы фасоля, рассыпаўся на выпасе статак пярэстых кароў, за палазочанымі восенню ўзлескамі ўваткнуўся ў неба пятрыкаўскі рэтранслятар. Паглядзіш прама — за абчэсанымі, абгладжанымі граблямі прысадзістымі стагамі цёмнай шчэццю стаіць дубровы. Глянеш направа — за купкамі лазнякоў, за выцвілымі палеткамі відаць хаты роднай вёскі. Усе фарбы Палесся сышліся тут, адцяняючы і дапаўняючы адна адну. Так і стаяў на бульбяных гонях сам-насам з гэтым абшарам. І раптам аднекуль з поўначы пачуліся тужлівыя гукі, ад якіх сціснулася сэрца. Яны былі падобныя на жураўліныя, але гэта было не курлыканне, а працяжныя воклічы расстання — узбуджаны птушыны грай. Падняў галаву — воддаль, ад суседняй вёскі, кружылася ў небе жураўліная карусель. Дзве чарады, быццам даганяючы адна адну, то змыкаліся, то рассыпаліся на пары.

Птушкі развіталіся з Радзімай. Развіталіся так, быццам ніколі больш не ўбачаць гэтых родных мне і ім палескіх абшараў. Прарочыя птушкі, ці ім не ведаць, які цяжкі шлях у іх наперадзе ў чужыну.

І вось пачуўся патрабавальны покліч важака. Чарада выцягнулася доўгім ланцугом і марудна закалыхалася на поўдзень.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

# РАСТАПТАНЫЯ ПЯЛЁСТКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ўжо быў урачом, а Янка Бобрык — студэнт, паэт, маладняковец, адзін з аўтараў калектыўнага зборніка вершаў "Пунсовае ранне".

Я нецярпліва чакаў Марусю з сталіцы: хацелася даведацца пра Янкавых сяброўпаэтаў, пра кіпучае літаратурнае жыццё сталіцы: у друку ішлі спрэчкі паміж "Маладняком" і "Узвышшам", Тодар Глыбоцкі лаяў Дубоўку, ужо гучаў грозны бас Бэндэ.

Вярнуўшыся, Маруся расказала пра знаёмства з Валерыем Мараковым: "Ішлі мы з Янкам па Савецкай вуліцы, а насустрач — высакаваты прыгожы хлапец у караткаватым паліточыку і кепцы, ружовашчокі з марозу. Ідзе і здалёк усміхаецца Янку. Спыніліся, Янка пазнаёміў нас. Валеры гаварыў нешта прыемнае мне, а я слухала яго нягучны пявучы голас і дасціпныя жарты. Далей пайшлі разам. Яны гаварылі пра свае маладнякоўскія клопаты, пра Чарота, Александровіча, Пушчу, Труса, успаміналі нейкія смешныя гісторыі. Развіталіся на рагу Садовай, і Валеры пабег у свой тэхнікум".

Я зайздросціў Марусі, што сустракалася з любімым мною паэтам, і марыў некалі трапіць у сталіцу і пабачыць жывых пісьменнікаў, можа, нават удасца сустрэць Купалу і Коласа.

Скончыўшы школу, у 1930 годзе я падаўся ў літаратурную "падсталіцу" — акруговы Бабруйск. Філію "Маладняка" ўзначальваў Міхась Лынькоў, выяўляў і апекаваў маладых літаратараў. У актыве ўжо былі Мікуліч, Вітка (Крысько), Кохан, Зарыцкі, Шынклер, Жукоўскі, Абакшонак, і я паспеў надрукаваць некалькі вершаў у акруговай газеце і літаратурным дадатку "Вясна". Колькі тады было募раў, захапленняў, спадзяванняў і планаў. Мае сябры і я працавалі пераважна на дрэваапрацоўчым камбінаце. Зарыцкі на дзяжурства ў сушыльны цэх ішоў з ладным стосам паэтычных зборнікаў. Як ні было цяжка, мы жылі паэзіяй. Мінск нам здаваўся літаратурнаю Мекаю, асяродкам талентаў і славутасцей, мы сачылі за ўсімі навінкамі паэзіі і прозы.

У адным з зімовых нумароў "Маладняка" з'явіўся верш Маракова "Цыганка". Незвычайнай інтанацыяй, памерам, напеўнасцю, зрокавай дакладнасцю малюнка ён зачараваў усіх бабруйскіх пачаткоўцаў.

**За вокнамі спевы,**
**За вокнамі вечар**
**І радасць зямлі і вясны**
**Чалавечай...**
**Цыганка у цьме...**
**У цьме ёй прысніліся стэп і дарога,**
**Блуканні і сум,**
**І любоў,**
**І трывога...**

Мы часта ўдвох, утрох, блукаючы па вуліцах, дэкламавалі "Цыганку" або "Маўчала ноч... Над сінім полем пунсовай кветкай месяц плыў". Здавалася: нашы пачуцці і мары падслухаў і выказаў Валеры Маракоў. З вышыні цяперашняй дасведчанасці і вопыту ў "Пялёстках" відны наіўнасць, штучная метафарычнасць, невысокае майстэрства. І гэта натуральна для шаснаццацігадовага таленавітага паэта.

Пасля цяжкай хваробы я прыехаў у сталіцу, спадзеючыся "ашчасліваць" беларускую паэзію. Наіўныя спадзяванні яшчэ цепліліся, а рэчаіснасць астуджвала іх і ставіла на сваё месца. Я не адразу адважыўся зайсці ў аблузаны шэра-зеленаваты асабнячок Дома пісьменніка, хоць ужо і быў членам БелАППа (Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў). Правінцыяльная сарамлівасць і сціпласць не дазвалялі пераступіць парог у цьмяны калідор дома на два паверхі і з сутарэннем-сталоўкаю. Часта круціўся каля ўваходу, углядаўся ў кожнага, хто заходзіў у пісьменніцкую "рэзідэнцыю". Па друкаваных партрэтах пазнаваў некаторых пісьменнікаў і дзівіўся, што з агульнага натоўпу той-сёй вылучаўся толькі капелюшом.

Аднойчы мяне заўважыў Барыс Мікуліч і зацягнуў у сярэдзіну. Там я сустрэўся і асабіста пазнаёміўся з вядомымі па завочнай перапісцы Таўбіным, Астапенкам і Куляшовым. У іх ужо выйшлі першыя кніжачкі, Таўбін нам чытаў сваю новую паэму "Таўрыда". У суседнім пакоі на цыратовай канапе чыталі адзін аднаму вершы лірыкі Маракоў і Кляшторны. Мяне з імі пазнаёміў Таўбін. Валеры быў такі, якім яго ўяўляў па партрэтах і расказах. Неўзабаве ўсе мы сышлі па вузенькай пакручастай лесвіцы ў сутарэнне пісьменніцкай сталоўкі. Я быў шчаслівы. Аж не верылася: разам абедаю ледзь не з усімі вядомымі пісьменнікамі.

Пасля абеду разыходзіліся невялічкімі купкамі. Я неяк далучыўся да Таўбіна, Хадыкі і Віктара Казлоўскага. Паселі на лаўцы ў тэатральным скверы, гаварылі пра вершы, лепшыя і горшыя, пра складанасці жыцця, пра несправядлівыя наскокі Бэндэ і Кучара на лірыку Маракова і Кляшторнага, пра абвінавачванні Хадыкі ў песімізме, адсутнасці мабілізуючай тэматыкі, мажорных настрояў, рытмаў сацыялістычнага будаўніцтва, такіх, як у "Гудках" Александровіча і "Рытмах-кантрастах" Хведаровіча. Для мяне гэта ўсё было нова і неспадзявана.

У 1932 годзе я паступіў на літаратурны факультэт Вышэйшага педінстытута імя Горкага. Было трохі дзіўнавата — чаму імя Горкага? Аляксей Максімавіч інстытутаў не канчаў, адразу прайшоў "Мои университеты". Тады ўсё здавалася нармальным. Вучыўся я і аднечасова працаваў у рэдакцыі "Чырвонай змены". Маракоў займаўся ўжо на другім курсе крытычна-творчага аддзялення. Гэта быў своеасаблівы літаратурны ліцэй для маладых і ўжо прыкметных паэтаў і крытыкаў. Самаю папулярнаю асобаю быў, вядома, Валеры Маракоў — аўтар кніг "Пялёсткі" і "На залатым пакосе".

Калі на шумным і людным калідоры з'яўлялася яго здалёк прыкметная постаць, гамана сціхала, усе расступаліся, маладзейшыя прыхільнікі шапталіся: "Вунь Маракоў ідзе". Я ганарыўся нашым знаёмствам. Валеры заўсёды вітаўся за руку, пытаўся, што пішацца, часам тут жа аддаваў для "Чырвонкі" адзін або некалькі вершаў.

Валеры часам расказваў, што часта бывае ў Купалы. Гасцінная цёця Уладзя шчодра частуе ў той галодны час маладога паэта хатнімі прысмакамі, мабыць, прывезенымі з Акопаў. Калі заседжваліся дапазна, дзядзька Янка пакідаў Валерыя нанач у сваім кабінеце, бо да Козырава малады госць мусіў бы дабірацца пехатою. Апрача дзвюх ліній трамвая, ніякага гарадскога транспарту тады яшчэ не было.

Калі Валька, як ласкава яго звалі сябры, затрымліваўся на нейкіх вечарах ці сходах, нанач яго запрашалі Хадыка, Кляшторны ці Міхась Багун. Амаль усе пісьменнікі кватаравалі ў прыватных пакойчыках мінскіх старажылаў. Сяліліся "калоніямі" — на Камароўцы, на вуліцы Розы Люксембург, за вакзалам на Красівай або вуліцы Талстога.

Пасля зборніка "Вяршыні жаданняў" (1930 г.) у 1933 годзе выйшла апошняя прыжыццёвая кніга Маракова "Права на зброю". Назваю сталі словы з "Ліста да паэта Петруся Броўкі" — "Дадзена новым нам права на зброю", а далей — аптымістычныя мары і спадзяванні на шчаслівую і натхнёную працу:

**Так многа**
**патрэбна сказаць нам,**
**так многа,**
**Каб песня пяшчотай**
**і куляй была...**
**Каб нашыя сэрцы**
**над слаўнай дарогай,**
**Якой мы ідзем,**
**Не кранала імгла.**

Ці не адчуваецца тут вымушаная "перабудова", інтанацыя і ломка радка пад Маякоўскага — "лучшего, талантливейшего поэта нашей советской эпохи"?

Забягаючы наперад, не магу не сказаць, што аптымістычныя надзеі ў самым узлёце абарвала дзікая куля, а сэрца накрыла імгла.

А ў студэнцкія гады дасведчаны, начытаны, эрудзіраваны Валеры Маракоў быў для сяброў аўтарытэтным кансультантам, а для акадэміка Замоціна, прафесараў Барычэўскага і Бузука — любімым студэнтам. У тыя гады ўсе мы атрымлівалі аднолькавую стыпендыю — 25 рублёў на месяц, картку на 300 грамаў глеўкага хлеба і пропуск у студэнцкую сталоўку на вуліцы Фабрыцыуса. У дні выплаты стыпендыі часам каля касы Маракова чакалі Кляшторны або Багун, спадзеючыся пазычыць нейкую дробязь. Выдавецтва ганарары па 30 капеек за радок цыркала нерэгулярна. На калідоры каля кабінета намесніка дырэктара Івана Бучукаса на дзіравай цыратовай канапе часта чакалі фінансавай ласкі паэты і празаікі. Аднойчы тут жа Маракоў склаў "слязніцу": "Бучукас, Бучукас, пашкадуй ты нас, дай адзін рубляс на куфляс півас". Яна стала папулярнаю сярод пісьменнікаў, дайшла і да Бучукаса. Ён звычайна, падпісваючы паперку ў бухгалтэрыю, казаў: "Вось табе на куфляс півас".

Ідэалагічныя прыстасаванцы, пярэваратні і прапаведнікі вышуквалі аб'екты дзеля сваіх спекуляцый: грамілі на сходах і ў друку "нікому не патрэбную лірыку", цытавалі трыбуна рэвалюцыі: "Надо вырвать радость у грядущих дней", а каб вырваць яе, пасылалі пісьменнікаў на "перакоўку" на лічаныя тады ў Беларусі заводзікі, на пракладку брукаванак, на будаўніцтва такіх "гігантаў", як "Асінбуд". Асабліва клапаціліся пра лірыкаў. Папрацаваў і Маракоў на запалкавай фабрыцы Барысава, у Рэчыцы, на тым жа "Асінбудзе". Як ні пнуўся, одапісцам Валеры не стаў. А вершы-справаздачы хутчэй нагадвалі стрыманыя пародыі.

У 1931 годзе Маракоў надрукаваў верш "Стаю прад Пушкіным адзін і думу думаю сурова..." Прачытаў яго, і нейкі д'ябал падштурхнуў мяне напісаць пародыю: "Ты знаеш, Пушкін, я паэт, я славай гэтаю багаты, а мне, нікому не сакрэт, патрэбен добры, моцны тата". Пародыя з выдатным сяброўскім шаржам мастачкі Галі Дакальскай з'явілася ў часопісе "Чырвоная Беларусь" пад псеўданімам С. Каршун. Праз нейкі час сустрэўся з Мараковым і, відаць, вінавата замаргаў. Вітаецца Валька і смяецца: "Ну, колькі ты зарабіў на мне, Каршунёнак? Хадзем, частуй півам". Я пачаў аднеквацца. "Не тлумі галаву, хлопча. Я зазірнуў у ганарарную ведамасць і ўбачыў тваё прозвішча. Запомні: пародыя і эпіграма — **найлепшая рэклама**. Не бойся, я не крыўдую. Калі не маеш 52 капейкі, я частую". Прыйшлося ісці ў піўную Лёвы Браўна і ўзяць па куфлю густога, аж чорнага піва "Портэр".

З гэтай пары мы амаль пасябравалі з Мараковым: часта сустракаліся ў Доме пісьменніка, шпацыравалі па інстытуцкіх калідорах, па Савецкай вуліцы. А калі заводзіліся капейкі, выходзячы з бухгалтэрый выдавецтва ці "Чырвонай змены", заварочвалі на Камсамольскую вуліцу ў мясцовае "Стойла Пегаса" — прапахлую півам і нейкаю смажанінаю забягалаўку, названую "Капернаўмам". Адразу станавілася шумна і весела. Потым "ідэолагі" нашы паходы ахрысцілі "амаральнай багемай", хоць і самі часта заварочвалі туды, каб сабраць назіранні дзеля далейшай "работы" ды і глынуць піва.

Аднойчы позним летнім вечарам каля кінатэатра "Чырвоная зорка" сустрэліся мне Валеры і празаік Сяргей Знаёмы. Пагаварылі і вырашылі пасядзець за чацвярцінкаю і паслухаць новыя вершы Валерыя. Дзе? Я прапанаваў паехаць у мой маленькі пакойчык на не існуючым ужо Трамвайным завулку. Час позні: магазіны пачалі зачыняцца. Пайшлі з Валерыем на здабычу. На рагу Савецкай і Ленінскай вуліц стаяў пастаў міліцыянер, хоць у горадзе было не больш дзесятка легкавых машын. Валеры мне сказаў пачакаць, а сам пайшоў да пастаўога. Павіталіся за руку, пагаварылі і разам падышлі да мяне і рушылі да першай зачыненай, але яшчэ асветленай крамы. Міліцыянер пастукаўся. Дзяўчына ўпусціла нас, узялі, што трэба, падзякавалі ёй і міліцыянеру, вярнуліся да Знаёмага і паехалі ў мой катушок. Я спытаў, адкуль Валеры ведае гэтага міліцыянера. "Я іх амаль усіх ведаю: хлопцы з нашага Козырава падаліся ў міліцыю. І гэты — мой сусед".

За гаворкаю, чытаннем вершаў заседзеліся позна. Знаёмы заспяшаўся, каб паспець на апошні трамвай. Валеры застаўся ў мяне. Каб нікому не было крыўдна, так-сяк паслаліся на падлозе, а сон не браў. Валеры па памяці чытаў і чытаў ледзь не ўсяго свайго любімага Лермантава і Ясеніна. Здавалася, ён ведае іх з першай да апошняй старонкі.

Назаўтра, ідучы ў пісьменніцкую сталоўку, не памятаю хто, здзіўлена спытаў: "Вас абодвух выпусцілі?" — "Адкуль?" — не зразумеў я. "Як адкуль? З міліцыі. Вас жа з Мараковым учора ўвечары некуды вёў міліцыянер". Я разрагатаўся, але не ўпэўнены, ці пераканаў цікаўнага.

У 1934 годзе Валеры канчаў інстытут, пісаў дыпломную работу і рыхтаваўся да экзаменаў. Таму сустракаліся радзей і радзей. Крытычна-творчае аддзяленне давала веды і не давала пэўнай спецыяльнасці, апрача педагагічнай. Маракова з Лявонным накіравалі настаўнічаць у Бабруйск.

Новыя кніжкі Маракова не выходзілі, у перыёдыцы ўсё радзей і радзей з'яўляліся яго вершы. Затое імя яго часта мільгала ў артыкулах заартадаксаленых бэндаўскіх падбрэхічаў. Абвінавачвалі яго ў песімізме, ясеніншчыне, ігнараванні мабілізуючай на выкананне "велічных планаў" творчасці, у ідэалізацыі багемы. Нават нашу праходку з козыраўскім міліцыянерам залічылі ў парушэнне маралі. А рыфмаваных справаздач Валерыя на заводы Рэчыцы, Барысава, Воршы не заўважалі і, мабыць, правільна рабілі, бо "Ноч трывогі і паэты на прарыве", "За тысячы новых тваіх нафтабудаў", "Першы дзень на запалкавай фабрыцы" ўспрымаліся як пародыі на актуальную тэматыку. Героямі твораў эпохі таталітарызму павінны быць бясполыя будаўнікі сацыялізму, улюбёныя ні ў якім разе не ў жанчыну, а ў родную партыю, правадыра, сацыялістычны лад і шчаслівае жыццё па картках і "заборных кніжках". А лірыка лічылася "атакованной в штыки" варожай сацыялізму атрутай.

Тонкі і таленавіты лірык Маракоў стаў радавым настаўнікам у адной з бабруйскіх школ. Трывожныя прадчуванні, што насоўваецца хмара бяды, не пакідалі Маракова з 1933 года, калі знікла чарговая група маладых таленавітых пісьменнікаў за суровым Уралам, у завейнай Сібіры і ў казахстанскіх стэпах.

**Мы знаем усё:**
**дабро і зло,**
**І мы, быць можа, ўсім даруем,**
**Але знікаючы ў туман,**
**Мы з кожным крокам ўсё нервовей**
**Ў душы смяемся з даўніх ран**
**І спатыкаем сотні новых...**

З новым наборам сустрэў і Маракоў "варфаламееўскую ноч" восені 1936 года, і разам з цветам беларускай літаратуры знік Валеры Маракоў у атрутным тумане турэмных засценкаў. Нягледзячы на звышпільную ізаляцыю, няспынны нагляд праз "ваўчкі", кожная турма жыла тоненькім пастукваннем у таўшчэзныя сцены кропкамі і працяжнікамі марзянкі і лічбамі "бястужаўкі". У камерах ведалі, хто сядзіць побач, зверху і знізу, хто следчы, хто іх сусед, хто падпісаў выбітыя паклёпы. За год катаванняў Маракоў паўтараў адзінае і самае кароткае слова: "Не, не." Самымі вытанчанымі здзекамі следчыя не змаглі выбіць у гэтага мяккага, далікатнага, чыстага душою паэта ніводнага самаабгавору, ні паклёпу на сяброў.

У кароткі адліжны прасвет перагляду фальсіфікаваных абвінавачванняў самых сумленных людзей былы пракурор Беларусі Г. Тарнаўскі ў інтэрв'ю карэспандэнту БелТА расказваў, як Валерыя Маракова і акадэміка Гаўрылу Гарэцкага абвінавачвалі то ў трацкізме, то ў прыналежнасці да міфічнага "Саюза вызвалення Беларусі". Ні Гаўрылу Гарэцкага, ні Валерыя Маракова самыя вытанчаныя здзекі майстроў заплечных спраў зламаць не змаглі. Ведаючы ўсё гэта, Г. Тарнаўскі здзіўляўся: "Мужна трымаўся В. Маракоў. Пратаколы допытаў нязменна завяршае сказ: "Абвінавачаны вінаватым сябе не прызнаў". Тое ж самае Маракоў паўтарыў 28 кастрычніка 1937 года "тройцы" Вайсковай калегіі Вярхоўнага суда СССР. Кожнае яе пасяджэнне доўжылася роўна 15 хвілін. У той дзень у крывавую пашчу ўсесаюзнага ка́та Васіля Ульрыха трапілі Чарот, Галавач, Вольны, Каваль, Дудар, Сташэўскі, Харык, Лявонны, Кляшторны, Таўбін, Півавараў, Зарэцкі. Іх лёс быў вырашаны па загадзя аддрукаваным прысудзе за тыя ж 15 хвілін — "вышэйшая мера пакарання, прысуд канчатковы і абскарджанню не падлягае". Карная сістэма не дазваляе нікому марудзіць: 29 кастрычніка або ў канцы лесу, што стаў паркам Чэлюскінцаў, або ў толькі што асвоеных Курапатах усе, напярэдадні асуджаныя, былі расстраляныя.

Не магу ўявіць, у якога звера паднялася лапа, каб стрэліць у патыліцу аўтарам "Босых на вогнішчы", "Спалоху на загонах", "Сцежак-дарожак", вершаў, якія яны, напэўна, вучылі на памяць у школе. Уяўляю, каб у гушчары пушчы сустрэўся галодны воўк з блакітнавокім залатавалосым Валерыем Мараковым, у яго апусцілася б хіжая лапа, ён саступіў бы сцежку паэту, абароненаму аўрай дабра і натхнення. Наўрад ці дазволілі ка́ты развітацца сябрам, пастаўленым над ровам з жоўтага пясочку, ці паспелі зірнуць у неба, як падаюць зоркі.

Дзень 29 кастрычніка павінен стаць, можа, некалі і стане Днём Жалобы і Памяці нацыянальнай літаратуры і культуры, бо былі ж знішчаны вучоныя, мастакі, артысты, ледзь не ўсе выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры. А прадчуванне дваццацівасьмігадовага Маракова было сапраўды прароцкім у вершах і ў "Маёй паэме":

**Што ж мне спяваць расстраляныя песні?**
**Ім не развеяць роспачы туман,**
**Тут, на зямлі, другое сонца песціць,**
**Тут нейк умеюць жыць і паміраць.**

У часе адлігі на пачатку 90-х гадоў некаторыя даследчыкі былі дапушчаны да недасяжных крывавых архіваў. Але ні ў адной справе не знайшлі абавязковага "Акта о приведении приговора в исполнение". У ім павінен быць подпіс каменданта турмы, выканаўца і ўрача, які засведчыў факт смерці. З свайго доўгага вопыту я ведаў каменданта Ермакова і турэмнага доктара ў пенснэ, які дажыў да глыбокай старасці ў доме на Круглай плошчы. Я яго сустракаў і ледзь стрымліваўся, каб не пагаварыць "па душах".

Сляды сваіх крывавых папярэднікаў старанна замяталі іх прадаўжальнікі: у дакументах аб рэабілітацыі расстраляных яны бессаромна падтасоўвалі даты смерці, пераносячы на гады вайны і варыянты трох хвароб, вядомых тым "дасведчаным" следчым.

У кніжачцы "Лірыка" (1959 г.) біяграфічная даведка сцвярджае: "Памёр Маракоў 7 мая 1940 года". Як ні хавалі праўду баязлівыя злачынцы, пазней вымушаны былі прызнацца, што Маракоў "рэабілітаваны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1957 г. Расстраляны 29.10.1937 г." (Даведнік "Беларускія пісьменнікі" 1994 г.). Паэт замоўк назаўсёды, а яго расстраляныя песні, як і пялёсткі, растаптаныя цяжкімі ботамі, ажывуць з новай вясною, зацвіце і напоўніцу выспее беларуская паэзія Маракова і яго сучаснікаў.

**Я бачыў свет, жыццё і дагаранне,**
**Я бачыў любую карміцельку-Зямлю,**
**І гэта ўсё, як сонечнае ранне,**
**Як маладосць, як родны край люблю.**

За любоў гінулі і гінуць многія паэты з часоў Гамера і Дантэ і да нашых жорсткіх, крывавых і бясправных дзён. А паэзія жыла, жыве і будзе жыць.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**



**Андрэй Свірыдзенка працуе мастаком у Віцебскім акцыянерным таварыстве "Віцебскія дываны". А ў вольны ад работы час ён малюе карціны, большая частка якіх — своеасаблівы рэквіем загінуўшым караблям.**

**Нядаўна ў музычнай гасцінай абласнога цэнтра адкрылася першая ў жыцці Свірыдзенкі выстава "Жывапіс. Графіка. Караблі". На ёй, акрамя жывапісных палотнаў, прадстаўлены макеты старадаўніх караблёў, зробленыя рукамі Андрэя.**

**НА ЗДЫМКУ: Андрэй СВІРЫДЗЕНКА на адкрыцці выставы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## ВЕРШЫ ЎКРАІНСКАГА ПАЭТА ПА-БЕЛАРУСКУ

# «ТЫ ВЕР АДНО ЗЯМЛІ СВЯТОЙ...»

У загалоўку — словы цудоўнага ўкраінскага паэта Багдана Ігара Антоныча (5.10,1909 — 6.07.1937), ураджэнца Заходняй Украіны, які за вельмі кароткае жыццё паспеў здзейсніць не так і мала, каб заняць прыкметнае месца ў нацыянальнай літаратуры.

Вучыўся Антоныч у Львоўскім універсітэце. Тады гэтая ўстанова была польская, але юнак прагна вывучаў родную мову, спасцігаў яе жыццядайны, гаючы водар, яе непаўторныя яскравыя фарбы, пачынаў ствараць вершы, публіцыстычныя артыкулы, рэцэнзіі, фельетоны, пародыі. Апроч таго, спрабаваў свае сілы ў прозе і драматургіі. Яго пяру належыць лібрэта да оперы "Доўбуш" (Алекса Доўбуш — легендарны ўкраінскі герой), якую меўся стварыць А. Рудніцкі. Некаторы час ён рэдагаваў часопіс "Дажбог".

Антоныч іграў на скрыпцы, марыў стаць кампазітарам, а яшчэ маляваў. Любоў да музыкі і захапленне выяўленчым мастацтвам паўплывалі на ягоную лірыку. Пра гэта сведчыць ледзь не кожны верш паэта, яго частыя надзвычай маляўнічыя вобразы: "Сяло ў садах на схіле гор, і месяц, як цюльпан, чырвоны" ("Зялёнае Евангелле"), "Згарае ціха дзень на вугаль ночы" ("Запрашэнне"), "Спіць птушкай скрыпка на сцяне. Чырвоны збан, куфэрак просты" ("Тры пярсцёнкі"), "Направа лён, і лён налева, вяселле праз дуброву едзе" ("Вясна")...

У другім томе трохтомнай хрэстаматыі ўкраінскай літаратуры і літаратурнай крытыкі "Украінскае слова" (1994) гаворыцца пра тое, што Антоныч-паэт нараджаўся цяжка, але, знайшоўшы свой сапраўдны творчы шлях, пайшоў па ім сямімільнымі крокамі, пра тое, што яго метэарычны ўзлёт у найвышэйшыя сферы паэтычнага мастацтва быў роўны подзвігу і што ён адзін з найвыдатнейшых украінскіх паэтаў нашага стагоддзя.

А цяпер, мяркую, лагічна будзе коратка расказаць пра чалавека, які адшукаў гэты талент і наблізіў яго да нас, пра творцу, які нечакана ўліўся ў перакладчыцкія шэрагі, які шчыруе, каб мацнелі і развіваліся культурныя стасункі паміж Беларуссю і Украінай. Гэта — Мікола Аляхновіч.

Мікола Аляхновіч — дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Брэсцкага педагагічнага універсітэта. У свой час ён вучыўся ў аспірантуры ў доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі слыннага Ф. Янкоўскага, пад яго кіраўніцтвам пісаў кандыдацкую дысертацыю. Гэта той выпадак, калі чалавек прысвячае сваё жыццё служэнню роднай мове, навучанню і выхаванню свядомых беларусаў; яго асоба становіцца прыкметнаю ў нашай нацыянальнай асвеце і культуры. Не так даўно навуковец вярнуўся з Венгрыі, куды быў запрошаны выкладаць беларускую мову, — за межамі краіны ёсць нямала людзей, зацікаўленых у аваладанні мовай нашага народа.

Тое, што выкладчык высокага рангу дасканала валодае вялікім духоўным скарбам роднае мовы, не павінна і здзіўляць. Добра, што гэтае багацце не замінае яму няблага ведаць і некаторыя замежныя мовы, сярод якіх асаблівае месца займае ўкраінская. Чаму? Хоць бы таму, што сярод самых любімых паэтаў свету — украінскія: Тарас Шаўчэнка, Леся Украінка, славутыя класікі, а яшчэ малавядомы Багдан Ігар Антоныч... Пакуль што мала хто ведае, з якім захапленнем Мікола Аляхновіч перакладае іх творы на беларускую мову, і хочацца, каб чытачы газеты пазнаёміліся хоць з невялікай часткаю гэтых перакладаў. Упэўнены, што яны прынясуць эстэтычную асалоду, бо ў іх добра бачны талент не толькі мовазнаўцы, але і літаратара.

Хачу падкрэсліць, што пераклады Міколам Аляхновічам вершаў Багдана Ігара Антоныча — першая на Беларусі спроба пазнаёміць чытачоў з неардынарнай з'явай, яскравай старонкаю дужа багатай літаратуры суседняй нам Украіны.

**Васіль ЖУКОВІЧ, пісьменнік, сябра рады таварыства "Беларусь — Украіна".**

**Багдан Ігар АНТОНЫЧ**

### ЗЯЛЁНАЕ ЕВАНГЕЛЛЕ

**Вясна што казачны віхор,**
**дзе белыя ў загоне коні.**
**Сяло ў садах на схіле гор,**
**і месяц, як цюльпан, чырвоны.**

**Сялянскі ясеневы стол,**
**славянскі збан, у збане сонца.**
**Ты вер адно зямлі святой,**
**расквечанай, як гэты сон мой.**

### ТРЫ ПЯРСЦЁНКІ

**Спіць птушкай скрыпка на сцяне.**
**Чырвоны збан, куфэрак просты.**
**Памкне, як толькі хто кране,**
**са скрыпкі гукаў срэбных россып.**

**У куфры простым спеўны корань,**
**насенне, воск, трава на шчасце.**
**А з дня самога ясна зорыць**
**пярсцёнкаў трох агонь нягасны.**

**З напоем мятным збан чырвоны.**
**І зелень кропляў яваровых.**
**Хай струны песенныя звоняць**
**кахання й шалу веснавога!**

**Вышэй угору лучыць дах,**
**кружляе збан, спявае куфар,**
**і сонца — ўспалымнелы птах,**
**і ранак сеў на тыне зухам.**

### ВЯСНА

**Расце Антоныч, і траве расце,**
**і зелянеюць кучарава вольхі.**
**Пачуеш словы — нахіліся толькі —**
**ты самыя таемныя за ўсе.**

**Вясна, дажджом нас майскім не трывож!**
**Хто стоўк, як збан шкляны, блакіту неба!**
**Лісцё кідаць, як шкла кускі, ці трэба!**
**А ў рэшата лавіць ты хочаш дождж!**

**Дзівосней мова. гаю, чым усе:**
**Ў рушніцу ночы ўклаў хтось зоркі-кулі,**
**на вольхах месяц расклююць зязюлі,**
**Расце Антоныч, і трава расце.**

*Пераклаў з украінскай мовы М. АЛЯХНОВІЧ.*

## СА СТАРОГА КУФРА

# КАЛІНКАВІЦКІЯ СТРОІ



Калінкавіцкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Усходнім Палессі. Бытавалі ў XIX — першай палове XX стагоддзяў пераважна ў Калінкавіцкім, Светлагорскім і Жлобінскім раёнах. Адметныя дасканала распрацаванай і выверанай арнаментыкай натыкання і вышывак, своеасаблівымі, з мноствам пышных фальбонак каўнярамі жаночых кашуль, прыгожымі, багата аздобленымі гарсэтамі. Аснову жаночага летняга гарнітура складалі кашуля, спадніца-андарак, фартух, гарсэт, галаўны ўбор. Кашулю шылі з 3 полак даматканага белага палатна, з прамымі плечавымі ўстаўкамі, адкладным (стаяча-адкладным) прышытым ці здымным каўняром з мноствам пышных фальбонак, падобным да каўняра заходнееўрапейскага свецкага касцюма XVI стагоддзя. Аздаблялі кашулю натыканнем (пераборы), вышыўкай (працягам, пляцёнкай, крыжыкам, сакаленнем) на каўняры, рукавах (шырокая палоса арнаменту ў верхняй частцы рукава ў адных выпадках рэзка абрывалася, у другіх — паступова пераходзіла ў больш лёгкі, празрысты малюнак), плечавых устаўках, падоле, а таксама карункамі, мохрыкамі, нашыўкамі тканін. Спадніцу-андарак кроілі з 4 полак даматканага сукна ў вертыкальныя пункцірныя разнаколерныя паскі на сакавіта-малінавым фоне ("андарак ў граты") і ў разнаколерныя паскі на цёмна-чырвоным фоне, якія ўтваралі буйную клетку ("андарак у краты"). Да верху спадніцы, сабранага ў дробныя складкі, прышывалі спецыяльна вытканы пояс. Фартух шылі з 2 полак палатна, злучалі іх дэкаратыўным швом-расшыўкай. Белае поле фартуха натыкалася строгім арнаментам з прамавугольнікаў і квадратаў (дымкі, акенцы) і тонка распрацаваным арнаментам гарызантальных палос. Гарсэт шылі з тонкага даматканага, злёгку прываленага сукна або фабрычных тканін — шарсцянкі, аксаміту, атласу, саціну чорнага (радзей цёмна-фіялетавага, цёмна-вішнёвага ці сіняга) колеру. Кроіўся пhistorical прыталеным з баскай у форме 4 кліноў або пышнай фальбоны, зашпіляўся спераду на гаплікі. Крыссе яго абапал засцежкі аздаблялі нашыўкай тасьмы розных колераў (тасёмкі ўтваралі 4—6 кветак у 2 рады або кампанаваліся ў строгі малюнак геаметрычнага арнаменту), упрыгожвалі металічнымі і касцянымі гузікамі, машыннай ці ручной строчкай. Традыцыйна галаўнымі ўборамі дзяўчат былі вянкі, розныя паводле крою і аздаблення павязкі накшталт маленькіх ручнікоў — скіндачкі. Замужнія жанчыны насілі наміткі (завівала), хусткі, чапцы са скіндачкамі, донца якіх вышывалася густым чырвоным арнаментам.

Аснову мужчынскага адзення складалі кашуля з поясам і нагавіцы. Тунікападобную кашулю шылі з белага кужэльнага палатна, аздаблялі паскамі геаметрычнага арнаменту на каўняры, пазусе, плячах, рукавах і падоле. Адзенне дапаўнялася галаўным уборам (магерка, аблавуха), скураной кайстрачкай-калітой, а таксама скураным чэхлікам для ножыка, грабеньчыка.

**Падрыхтаваў да друку Дзяніс РАМАНЮК.**



Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 719.
Падпісана да друку 4. 05. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.